*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*


# НАША СЛОВА

ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ІМЯ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ

Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 49 (735) 21 СНЕЖНЯ 2005 г.


## З'езды ГА БНФ "Адраджэньне" і Партыі БНФ



17 снежня ў Менску прайшлі 10-ы з'езд ГА БНФ "Адраджэньне" і 9-ы з'езд Партыі БНФ.

З'езд заслухаў справаздачны даклад старшыні партыі і грамадскага аб'яднаняя Вінцука Вячоркі, справаздачныя выступы намеснікаў старшыні і старшыні Рэвізійнай камісіі.

З прывітаннем да з'езду звярнуўся адзіны кандыдат ад дэмакратычных сілаў у прэзідэнцкай кампаніі 2006 года Аляксандр Мілінкевіч. Прывітанне з'езду накіраваў Сакратарыят ТБМ.

Увыніку выбараў на новы тэрмін старшынём Партыі БНФ і ГА БНФ "Адраджэньне" зноў абраны Вінцук Вячорка. На сваіх месцах засталіся і ўсе намеснікі. А вось Сойм абноўлены прыблізна на трэць.

З'езд праходзіў у параўнальна спакойнай атмасферы, амаль што без традыцыйных унутрыпартыйных разборак. Гэтаму, мабыць, садзейнічала тое, што з'езд адбываўся ў першы дзень толькі што абвешчанай передвыбарчай прэзідэнцкай кампаніі, і дэлегаты былі заклапочаны новым вялікім аб'ёмам працы, пра які ўсе ведалі, але спадзяваліся, што гэта будзе крыху пазней.

*Яраслаў Грынкевіч.*

**Старшыні Партыі БНФ**
**сп. Вінцуку Вячорку,**
**сябрам Партыі**

**Шаноўныя сябры!**

Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны шчыра віншуе Вас, найбліжэйшых саюзнікаў і аднадумцаў, з нагоды правядзення 9-га з'езду Партыі БНФ.

Нам, сябрам і прыхільнікам ТБМ , заўсёды імпанавала Вашая паслядоўная пазіцыя ў адстойванні ідэалаў Нацыянальнага адраджэння, дзяржаўнай незалежнасці і суверэнітэту Беларусі, абароне нацыянальных сімвалаў, дэмакратычных інстытутаў, канстытуцыйных і чалавечых правоў нашых суграмадзянаў. Асаблівая падзяка — за заўсёдную вернасць і адданасць роднаму слову. Нездарма ворагі беларушчыны часцяком атаясамляюць беларускамоўных грамадзянаў Беларусі з "бэнээфаўцамі"(!).

Вашая Партыя, з'яўляючыся адной з найстарэйшых і самых масавых у найноўшай гісторыі Беларусі, зрабіла без перабольшання вялізарны ўнёсак у справу станаўлення Беларусі як незалежнай і вольнай дзяржавы, істотна паспрыяўшы абуджэнню нацыянальнай самасвядомасці ў значнай частцы нашага грамадства праз палітычную, грамадскую, асветніцкую, адукацыйную, выхаваўчую і культурніцкую дзейнасць. Пры Вашым удзеле, пад Вашым непасрэдным уплывам вырасла цэлае пакаленне, новая генерацыя маладых людзей, мужных і адданых сыноў ды дачок Беларусі, якія ўжо ніколі не стануць манкуртамі, "иванами, не помнящими родства". Выхоўваючы лепшых прадстаўнікоў беларускай моладзі на ідэалах Беларускай Народнай Рэспублікі, Вы фактычна зрабіліся пераемнікамі лепшых традыцыяў беларускіх палітычных партыяў пачатку мінулага стагоддзя, а таксама духоўнымі нашчадкамі лепшых сыноў і дачок Беларусі тых далёкіх часоў, адраджэнцаў "нашаніўскай" эпохі: Цёткі, братоў Луцкевічаў, Пётры Крычэўскага, Вацлава Ластоўскага, Аркадзя Смоліча, Браніслава Тарашкевіча ды многіх іншых.

Яшчэ да стварэння Партыі Рух БНФ "Адраджэньне" быў адным з тых нямногіх першых, хто ініцыяваў новую магутную хвалю Нацыянальнага адраджэння, задзіночыўшы таленавітых і творчых людзей усіх узростаў ды прафесіяў, паяднаных ідэяй служэння Беларусі: пісьменнікаў, мастакоў, грамадскіх дзеячаў, навукоўцаў розных галін ведаў. Гэтая акалічнасць надала значнасці і вагі Руху, а пасля і Партыі, аўтарытэт, які дагэтуль прызнаецца як у Беларусі, гэтак і за яе межамі.

Сёння Вашая арганізацыя — адна з нямногіх на Беларусі, у складзе якой гэтак шмат прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі.

Кіраўніцтва і сябры ТБМ зычаць Вам плёну ў працы З'езду, жыццёвага аптымізму і палітычных перамогаў у імя і на карысць Беларусі!

Жыве Беларусь!

**Сакратарыят ТБМ.**

# *З Калядамі, беларусы!*




Фота Ланы Руднік

## *Калі за адраджэнне мовы, чытай, спадарства, "Наша слова"!*

Шаноўнае спадарства, завяршаецца падпіска на першае паўгоддзе 2006 года.

На працягу некалькіх дзён вы яшчэ можаце скарыстацца з магчымасці падпісацца на самую беларускую газету нашай краіны.

Будзьце з намі ў гэты няпросты для ўсіх час.

РП - 1

**Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь**

**АБАНЕМЕНТ** на газету/часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА***
(назва выдання)

Колькасць камплектаў: **1**

На 2006 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| X | X | X | X | X | X | | | | | | |

**Каму** (прозвішча, ініцыялы)

**Куды** (паштовы індэкс) (адрас)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

на газету/часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА***
(назва выдання)

| **Кошт** | падпіскі | 7620 руб. | Колькасць камплектаў | **1** |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | руб. | | |

На2006 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| X | X | X | X | X | X | | | | | | |

**Каму** (прозвішча, ініцыялы)

**Куды** (паштовы індэкс) (адрас)





*Святлана Багданкевіч*

# Што перашкаджае мне цалкам перайсці на беларускую мову?

*Святлана, выкладчыца музыкі*

Аднойчы мне давялося назіраць такую сцэнку: у прадуктовую крамку на закупы зайшоў адзін вядомы літаратар і звярнуўся да прадавачкі па-беларуску. Тая шчыра намагалася зразумець, што жадае набыць гэты інтэлігентны, імпазантны чалавек, але ёй тое не зусім удавалася, прынамсі з першага разу. Пакупніку даводзілася ці не кожнае слова паўтараць па некалькі разоў, яшчэ і рукой паказваць: "Селядзец! Селядзец!" Я тады яшчэ падумала: вось як беларуская мова "стварае" нам праблемы на пустым месцы - у нашым, так бы мовіць, "ацечастве". Калі ж расказала пра гэтыя свае назіранні адной знаёмай (дарэчы, беларускамоўнай і выдатнай знаўцы беларускай мовы), то яна мне на тое адказала: "Што да мяне, то беларуская мова - гэта мова маёй душы, а ў крамах, я лічу, не абавязкова ёю карыстацца". Пазіцыя зразумелая, пра тое і ў Евангеліі сказана: "Не давайце святога сабакам і не кідайце пэрлаў вашых перад свінямі, каб яны не стапталі іх нагамі сваімі і, абярнуўшыся, не разарвалі вас".

Думаю, сёння кожны беларускамоўны чалавек у грамадскіх месцах пастаянна мусіць рабіць гэты выбар: гаварыць ці не гаварыць па-беларуску? І тут можна было б прааналізаваць найбольш агульныя "за" і "супраць" публічнага ўжывання беларускай мовы.

"ЗА":

- натуральная патрэба гаварыць на сваёй роднай мове, якою думаеш, чытаеш і пішаш;
- здаровы сэнс, натуральны стан - карыстацца сваёй мовай у сваёй краіне;
- любоў да роднай мовы, жаданне, задавальненне, прыемнасць гаварыць ёю;
-грамадзянскі абавязак - рабіць родную мову чутнай, прысутнай ў грамадстве;
-эстэтычнае пачуццё, густ, якія не дазваляюць замест сапраўднай мовы гэтай зямлі выкарыстоўваць псеўдарасейшчыну, саўковы сурагат.

А вось матывы, якія прымушаюць часам высцерагацца ўжывання роднай беларускай мовы ў побыце ці то ў публічных месцах:

- нежаданне звяртаць на сябе залішнюю ўвагу (адчуваную часам, як навязлівая і несвоечасовая);
- нежаданне ўскладняць пэўныя простыя сітуацыі;
- рызыка выклікаць адмоўнае стаўленне да сябе, боязь абразы;
- рызыка непаразумення;
- рызыка нашкодзіць сабе ў пэўных адказных сітуацыях - да прыкладу, у зносінах з начальствам, бо, на жаль, такая наша сённяшняя рэчаіснасць;
- нежаданне ператвараць "мову душы" ў сродак камунікавання з людзьмі, якія вас не разумеюць ("не кідайце пэрлаў вашых ...").

Вось і атрымліваецца, што пры ўсіх "ЗА" часам перашкаджаюць усе гэтыя "супраць" і ставяць нас у сітуацыю выбару: размаўляць ці не размаўляць? (у нашай беларускай рэчаіснасці гэта ўжо ледзь не славутае "быць ці не быць?").

Што да мяне асабіста, то ўсведамляю, што не ўсе гэтыя матывы "супраць" маюць для мяне значэнне і з'яўляюцца перашкодай, але прынамсі некаторыя - замінаюць.

І ўсё ж, калі б хоць дзесяць адсоткаў гарадскога насельніцтва размаўляла паўсюдна па-беларуску, то адчуванне было б прынцыпова іншае, карыстацца сваёю мовай было б значна лягчэй. Гэта, без перабольшання, зняло б праблему. Беларуская мова на вуліцах стала б прывычнай, цалкам натуральнай з'явай. Гэтак і значна лепей магло б быць ужо даўно, калі б не згубная палітыка русіфікатарскіх уладаў. І ўсё ж, думаю, сёння не меней за дзесяць адсоткаў беларусаў маглі б размаўляць па-беларуску ў грамадскіх месцах ("выйсці з падполля") і абазначыць такім чынам, адчувальную прысутнасць беларускай мовы ў грамадстве. Тут утварылася нейкае зачараванае кола, і яно мусіць быць разамкнёнае.

*Сяргей, псіхолаг.*

Нямала беларусаў пад уздзеяннем шматгадовай прапаганды атаясамлівае карыстанне роднай мовай з нацыяналізмам. А нацыяналізм (любоў да нацыі) - нібыта вельмі кепска, бо ў савецкай мінуўшчыне замінаў "зліццю ў адзіную савецкую нацыю", а цяпер замінае зліццю ў "праваслаўна-славянскую нацыю".

Шматгадовае неспрыяльнае, часам і напросту адмоўнае, стаўленне ўлады (з ейным звышмоцным прапагандовым апаратам) да роднай мовы беларусаў прывяло да скажэння нацыянальнай свядомасці (без мовы нацыянальнай свядомасці якраз няма!) у шмат каго, хто мае беларускіх продкаў. Як псіхолаг, лічу, што горш за гэтае скажэнне можа быць толькі страта ўсведамлення свайго полу.

Але дзесьці ў падсвядомасці "былых беларусаў" (цяпер расіян?) варушыцца беларускасць, бо нават дзесяць пакаленняў не зменяць генетычную памяць. Яна ў гэтых "расіян" беларуская і абумоўлівае сутыкненне розных свядомасці і падсвядомасці, што выклікае пачуццё дыскамфорту, напружанасці.

Калі я пачынаю размаўляць на роднай мове з такім "расейцам", зкамуляваная напружанасць узбуджае ў ім "беларуса", падсвядома нагадвае яму пра здраду продкам. У выніку, гэта выклікае абароннчую агрэсію.

Таму лічу, што з такімі выраканцамі не варта настойліва размаўляць на ўжо няроднай ім мове, бо яны між волі агрэсіўна будуць даводзіць (і болей сабе, а не мне), што ён "не здрайца, што ён, змяніўшы мову, зрабіў "как нада", а вось я ... і ёлуп, і ўвогуле беларускай мовы не існуе", і г.д.

На практыцы гэта азначае: калі такі чалавек звяртаецца да мяне па псіхалагічную дапамогу, прафесійная этыка змушае мяне кансультаваць на пакуль пануючай у Беларусі расейскай мове, каб не кранаць, не развярэджваць прыхаваную, неасэнсаваную "моўную недастатковасць" пацыента, а займацца ягонай бядой - здрадай жонкі, смерцю дзіцяці і г.д.

Вядома, што не ўсе жыхары Беларусі цураюцца беларускай мовы, але, калі яны ня вельмі ведаюць адно аднаго, паводзяць сябе асцярожна, нават у прыватных стасунках. У мяне ёсць тэст, "пароль", які выяўляе "асцярожнага беларуса". У размове я кідаю нейкае роднае слоўка і, калі чалавек адгукаецца ці то ўсмешкаю, ці то вільгаццю вачэй, калі ён лагаднее і спрабуе вярнуць тую асалоду, якую атрымаў ад мілагучча роднай мовы, калі ён спрабуе мне адказаць на ёй, паўзабытай, я гатовы сціснуць яго ў абдымках. Яго не перакруцілі! Нам не спрыяюць, перашкаджаюць, але мы з ім заўсёды застанемся беларусамі.

# Мае адкрыцці ў беларускай мове

**Барыс, энэргетык**

Першае - выдатная перадача гумару. Слоўныя двубоі Дзеда і Міколкі-паравоза ў кнізе Міхася Лынькова хацелася чытаць бясконца.

Песня "Зорка Венера", пачутая на канцэрце, зачаравала сваёй прыгажосцю. У той час я нават "не ўяўляў", што такая прыгажосць можа быць створаная па-беларуску, думаў, што гэта пераклад з расейскай мовы. Дазнацца сэнс незнаёмых беларускіх словаў было цяжка. У бібліятэкі хадзіць я не прызвычаіўся, слоўнікі тады выдаваліся рэдка. Да таго ж у тагачасных слоўніках выдавецтва "Народная асвета" былі дзіўныя парады: "Для перевода русского слова, если даётся несколько слов, на первое место ставится более употребительное". А далей для перакладу слова "карандаш" ставілі на першае месца -"карандаш", на другое - "аловак". Таму, да прыкладу, напачатку дазнацца перакладу назваў газеты "Дзяніца", часопіса "Конадні" з савецкіх слоўнікаў я не здолеў. Толькі праз нейкі час усё ж даведаўся, што дзянніца - гэта ранішняя зорка, а конадні - напярэдадні.

Праўда, трэба сказаць, дапамагалі знаёміцца ў той час з роднай мовай шыльды з назвамі вуліц, афішы кіно. Дзякуючы ім я ведаў: вуліца Рымарская - Шорная, кінафільм "Справа стракатых" - "Дело пёстрых".

Родныя словы сустракаліся ў замежжы. На будаўніцтве электрастанцыі ў Македоніі я пачуў, што па-македонску грыбы - пячуркі. Пазней у апавяданні Уладзіміра Арлова сустрэў, што беларусы звалі пячуркамі шампіньёны: "... бялелі на газонах чародкі шампіньёнаў, а па-наску - пячурак". Македонскае слова "верверыца" - гэта наша - "вавёрка".

На прыгажосць назваў беларускіх вёсак звярнуў маю ўвагу знаёмы з Расіі. Яго прывабіла назва: вёска Вабічы.

Чытаючы многія беларускія творы, я зачароўваюся музыкай словаў, мне хочацца перачытаць гэта яшчэ раз сваім хатнім, знаёмым людзям.

*Сяргей, псіхолаг.*

Пятнаццігадовая дзяўчынка Наталля Арсенева ў свой час выпадкова натрапіла на верш Янкі Купалы "Я мужык-беларус", дзе яе надзвычай уразіла гучанне слова "цёмны", выдрукаванага, як "цйомны". Сапраўды гэтае слова, як і шмат іншых беларускіх словаў, гучыць з адметнай музычнасцю. Спачатку яно як шалясценне: "ць-ць-ць". Потым гук набірае моцы, робіцца шырокім і поўным, як гук бомаў: "ом-ом-ом". І нарэшце канчаецца кароткай выразнай фанемай: "ны!" Музычнасць беларускай мовы адгукнулася ў душы расейскай дзяўчынкі, што і вырашыла яе лёс. Дзяўчына, дзякуючы свайму адкрыццю зрабілася выдатнай беларускай паэткай, яе душа ператварылася ў беларускую душу...

У школьным веку я не жыў на Радзіме і не вывучаў родную мову. Але мне, падлетку, было нескладана заўважыць непадабенства эстонскага расейца і эстонца, чачэнскага расейца і чачэнца па адным іхнім маўленні. Ужо вярнуўшыся на Радзіму я зразумеў, што ў мове душа народа, мова ёсць інтэлектуальны скарб народа, што ў дзяржаве можа быць дзе-сяць моваў, а ў народа - адна.

Я адкрыў, які глыбокі сэнс месціць у сабе беларускія казкі, прымаўкі, прыказкі, народныя параўнанні: *"Зарабіў, як Заблоцкі на мыле. Ляпнуў, як лапцем па цымбалах. Сціплы, як воўк у яме. Няма смачнейшае вадзіцы, як із роднае крыніцы. Ці з перцам, ці не з перцам, абы было з шчырым сэрцам. Будзь авечкай - ваўкі знойдуцца."* А які штуршок да развагаў даюць "гістарычныя" прымаўкі і прыказкі: *"Не адразу Вільня будавалася. Смаргонская палітыка. Збіраецца, як цар пад Рыгу. -Тату, тату, чорт лезе ў хату! -Дарма! Абы не маскаль. А стуль туркі, а стуль шведы, недзе дзецца ад бяды".*

Я "адкрыў" старую ісціну: мая мова не дыялект польскага альбо расейскага "ензыков-языков". У расейскай мове шмат польскіх словаў, якіх няма ў беларускай мове: *богатырь* (рас. мова) - *богатэр* (польская), але волат, *асілак* па-беларуску. Адпаведна: *борозда-бруздa-разора, жалеть-жаловаць-шкадаваць, желудок-жолондэк-страўнік, зной-знуй-спёка.* Такіх прыкладаў у мяне болей за 250 ад літары А да літары З, дзе супадае гучанне расейска-польскіх паняткаў, пры адметных беларускіх словах. Адсюль іронія: дык якая мова з'яўляецца дыялектам якой?

І яшчэ я адкрыў, што па-расейску "закрывают. глаза, двери, книгу и печь". Па-беларуску: вочы заплюшчваюць, дзверы зачыняюць, кнігу загортваюць, а печ засланяюць.

У расейскай мове, як і ў беларускай, шмат лацізмаў, але ў Беларусь яны прыйшлі раней - праз выхаванцаў заходніх універсітэтаў, якіх былі сотні (глядзіце, напрыклад, спіс студэнтаў у швейцарскіх універсітэтах, які падае Моніка Баныcоўская-Цюрліг, пачынаючы з XVI стагоддзя, у № 4 "Беларускага гістарычнага часопіса" за 1995 год). Лаціна была мовай еўрапейскай навукі, мовай беларускіх асветнікаў XV-XVII стагоддзяў, мовай беларускай лацінамоўнай паэзіі, прозы, гістарычных твораў Я. Вісліцкага, М. Гусоўскага, Ф. Градоўскага, М. Літвіна, М. Карыцкага і іншых. Лаціна засталася ў шматлікіх словах, якія даўно сталі беларускімі: імпэт, лямант, адукацыя, скрыня, філія. Праўда, савецкія лінгвісты даводзілі, што гэтыя словы прыйшлі праз заходнія мовы, але пры гэтым замоўчвалі, што тагачасная Беларусь мела шматлікія навуковыя кантакты з астатняй Еўропай, у Беларусі быў па-эўрапейску цэлы пласт лацінамоўнай культуры, што сведчыць пра адпаведную культурную (не толькі геаграфічную) прыналежнасць нашай краіны. Запазычанні з лаціны займаюць ў нашай мове першае месца. На другім месцы запазычанні з германскіх моваў (згодна з падлікамі А. М. Булыкі (1980 г.) -3635 лексемаў). У расейскай жа мове пераважаюць запазычанні з угра-фінскіх і цюркскіх моваў.

Так я адкрыў, што мая родная мова ёсць моваю еўрапейскай па сваім духу і змесце. Так я адкрыў, што родная мова - дзівосны і дзейсны рыштунак майго самапазнання і самавызначэння, як беларуса.

*Святлана, выкладчыца музыкі*

Вяртанне да роднай мовы ўнесла абнаўленне ў маё жыццё і суправаджалася шматлікімі адкрыццямі. Галоўнае, што адкрыла для сябе сэрцам і розумам, гэта тое, што з роднаю мовай звязаны для нас, беларусаў, праўда, шчасце і паўната нашага жыцця на гэтай зямлі, у гэтай краіне. Без роднай мовы чалавек не мае адэкватнага разумення, усведамлення, адчування сваёй Радзімы, ды і самога сябе. Без яе ён нібыта абрабаваны, абкрадзены, жыве ў фальшывым, скрыўленым асяроддзі, дзе ўсё падменена (што сімвалізуе падмена назваў, словаў). Вядома ж, той, хто падмяняе, ведае, што робіць і навошта. Тут дзее нячыстая сіла - у гэтых ашуканскіх "языковых референдумах", "двуязычии", "свободном выборе языка" і г.д.

Адкрылася мне і тое, як актыўнае паглыбленне ў стыхію роднай беларускай мовы спрыяе інтэнсіўнаму развіццю і духоўнаму росту - праз узбагачэнне новымі і па-новаму асэнсаванымі паняткамі, спасціжэнне дасюль недаступных ісцінаў, пашырэнне і паглыбленне ўспрымання жыцця, карэктаванне і змену погляду.

(Працяг на ст. 4.)

*Святлана Багданкевіч*

# Мае адкрыцці ў беларускай мове

*(Заканчэнне. Пачатак на ст. 3.)*

Гэтак сама і ў мове: чым далей, дык болей адкрываецца яе багацце, ёмкасць, гнуткасць, самабытнасць. Гэтыя яе ўласцівасці адлюстраваліся ў беларускім фальклоры і ў мастацкай літаратуры. Чэрпаючы з яе бяздоннае крыніцы, кожны беларускі пісьменнік і паэт стварае свой непаўторны свет. Варта параўнаць мову такіх, да прыкладу, празаікаў, як Гарэцкі, Караткевіч, Мележ, Быкаў, паэтаў - Купалы, Максіма Танка, Барадуліна, Гілевіча... У кожнага - свая лексіка, вобразнасць, каларыт.

У беларускай мове знаходзім мноства слоў, якія ўвогуле не маюць адпаведнікаў у той жа расейскай мове. Напрыклад назвы квадраў месяца *(маладзік, поўня, ветах)*, назвы вятроў розных кірункаў *(сівер, вырай, сутон, уcток)*, такія словы, як, напрыклад - *грамада, камяніца, мур, гасцінец, неруш, знічка, наўсцяж, нагбом* і г.д. Багацце нашае мовы праяўляецца і ў наяўнасці сінанімічных шэрагаў там, дзе ў расейскай мове прысутнічае толькі адно слова на ўсе адценні значэння *(любовь - любоў, любасць, каханне; колокольчик - званочак, бразготка, шумёлка, бомка)*.

Такое ж багацце выяўляюць і фразеялагізмы ды ўстойлівыя словазлучэнні (у тым ліку прыказкі і прымаўкі). Асобныя слоўнікі падаюць па некалькі (аж да адзінаццаці) адпаведнікаў на амаль кожную расейскую фразему. І тут здзіўляе і захапляе моўная таленавітасць беларускага народа - вынаходлівасць, дасціпнасць, імкненне і ўменне сказаць у рыфму, трапна і зграбна. Вось пара прыкладаў: рас. *"Делу - время, потехе -час"*, бел. *"Перш папрацуй, а тады й патанцуй = Была нядзеля - і мы дудзелі, цяпер серада -працуй, грамада. = Калі - на лянок, а калі - на танок. = Гульня, ды не штодня. = Годзе цалавацца, пара і на хлеб старацца"*. Рас. *"Хоть лыком шит, а всё же муж"*. Бел. *"Няхай мужык як шкарпэтка, абы жонка як кветка. = Хоць мужык як лапаць, абы за ім ня плакаць. = Мужык хай будзе як долата, абы ты за ім была як золата. = Сякі-такі мужчына, абы дровы ды лучына. = Мужык як варона, ды ўсё жонцы абарона"* (З.Санько. Малы руска-беларускі слоўнік прыказак, прымавак і фразэмаў).

У беларускай мове - безліч вельмі прыгожых, вобразных, паэтычных словаў, якія гучаць, як вершы: *ліставей, вербалозы, летуценні, святаяннік, ростань, дасвецце, вячысты, пракаветны*. Наша мова - эканомная, гнуткая, зручная на словаўтварэнні: *веславаць, пеклаванне, брукаванка, звычаёвы, паўзверх, надвечар, падвяселены, нецярплівіца, люстравацца, бясхатнік, летаваць, парукацца*. Чым болей паглыбляешся ў стыхію беларускай мовы, тым болей робіш цудоўных адкрыццяў. Адкрываеш невычэрпную крыніцу мудрасці і прыгажосці.

Вось і дзівіцца ўвесь свет, чаму гэта беларусы, валодаючы такім каштоўным скарбам, як прыгожая і багатая свая ўласная мова, **карыстаюцца нібы жабракі, аб'едкамі з чужога стала, жуючы чэрствую скарынку прымітыўнай псеўдарасейшчыны? Калі думаеш пра гэта, то непазбежна адкрываеш для сябе, што ў чартапалоху прычын існавання такой паранаідальнай сітуацыі не апошняе месца займаюць нашыя лянота, дурнота і дрэнны густ. І далей высноўваецца: а ці не многія нашыя беды - ад дрэннага густу?**

Хочацца, каб беларусы нарэшце схамянуліся ды ўспомнілі народную мудрасць: ***"Не гняві Бога, не жадай чужога. Ты па чужое, а чорт па твае"***.

## Закон аб музеях Палата прадстаўнікоў прымала па-беларуску

**Колькі тыдняў таму Палата прадстаўнікоў прыняла ў другім чытанні законапраект "Аб музеях і музейным фондзе Рэспублікі Беларусь". Адметнасць гэтага прыняцця праявілася ў тым, што сам дакумент падрыхтаваны па-беларуску і абмеркаванне яго вялося выключна па-беларуску.**

Папярэдні музейны закон быў прыняты ў 1996 годзе. І дэпутаты адзначалі, што ён станоўча паўплываў на захаванне і развіццё сеткі дзяржаўных музеяў, удасканаленне музейнай справы. Але пазней з'явіліся юрыдычныя калізіі ды няўзгодненасці паміж названым законам ды іншымі нарматыўнымі актамі.

Пра адрозненні новага закону ад старога гаварыў, выступаючы перад дэпутатамі, Генадзь Давыдзька - сябра сталай парламенцкай камісіі ў пытаннях адукацыі, культуры, навукі і навукова-тэхнічнага прагрэсу:

- Законапраектам удакладняецца тэрміналогія: напрыклад, замест тэрміна "гістарычна-культурныя каштоўнасці" выкарыстоўваецца тэрмін "музейныя прадметы", удакладняюцца пытанні стварэння і ліквідацыі музеяў, іх класіфікацыі і фінансавання, камплектацыі музейнага фонду Рэспублікі Беларусь, прынамсі, дзяржаўнага кантролю за музейным фондам. Правы музеяў і іх наведнікаў рэгламентуюцца адпаведна сучасным умовам дзейнасці музеяў.

Паводле намесніцы старшыні памянёнай парламенцкай камісіі Наталлі Аўдзеевай, вынесены на разгляд законапраект дапоўнены артыкулам аб народных музеях, у якім вызначаюцца ўмовы надання музеям такога статусу, а таксама - артыкулам аб экспазіцыях і выставах. Апрача гэтага, вызначаны абавязкі музеяў і іх наведнікаў. Законапраект дапоўнены прававымі палажэннямі аб парадку ліквідацыі прыватнага музея.

Ініцыятыва падрыхтаваць першы музейны закон, прыняты ў 1996 годзе, зыходзіла яшчэ ад дэпутатаў Вярхоўнага Савета Беларусі XII склікання. Я размаўляў з Алегам Трусавым - дэпутатам Вярхоўнага Савета XII склікання, сакратаром тагачаснай парламенцкай камісіі па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны. Вось меркаванне Алега Трусава пра новы дакумент:

- Прыемна адзначыць, што гэта адзін з нешматлікіх законаў у сённяшняй Палаце прадстаўнікоў, які зроблены на дзяржаўнай беларускай мове. І тут перадусім заслуга кіраўніка гэтай камісіі спадара Здановіча. Ён - настаўнік з Драгічына, чалавек, які добра ведае мову. І нядаўна мяне парадавала яго публікацыя - ён выдаў зборнік задач па фізіцы на беларускай мове, куды ўвеў шмат цікавай інфармацыі з нашай гісторыі, культуры. І не забыў пра свой родны Драгічын. Цяпер усе будуць ведаць, што ёсць такі горад у Беларусі. Я хацеў бы пажадаць дэпутатам з Палаты прадстаўнікоў, каб усё ж такі беларуская мова не была выключэннем, каб яны вярнуліся да практыкі Вярхоўнага Савету XII склікання, калі ўсе законы ішлі на беларускай мове, а часам па-расейску рабіліся сінхронныя пераклады.

Што стрымлівае дэпутатаў ад рэгулярнага выкарыстання ў сваёй заканатворчай практыкі беларускай мовы? Дэпутат Наталля Аўдзеева сказала мне, што існуе псіхалагічны фактар. Маўляў, шмат дэпутатаў саромеюцца, што ў іх не атрымаецца добра гаварыць па-беларуску, таму яны выступаюць па-расейску...

- Наша пакаленне і старэйшае, мы выхоўваліся ў той час, калі, скажам як ёсць, перадусім асяроддзе фармавалася рускамоўнае, і практыкі не хапае. Ёсць такая звычка -размаўляць на рускай мове. А сёння асяроддзе беларускамоўнае паступова мае развіццё. Я ведаю гэта як філолаг паводле першай адукацыі і як асоба, якая курыравала адпаведныя кірункі ў дзяржаўнай палітыцы. А тормаз псіхалагічны існуе. Пажывём далей - пабачым, як беларусы будуць патрошкі больш цікавіцца роднай мовай: сакавітай, вельмі прыгожай, больш лёгка будуць на ёй размаўляць".

***Уладзімір Глод.***

## *Лідскі музей вяртаецца да беларускай мовы*

У Лідзе, бадай, першымі адрэагавалі на добры прыклад дэпутатаў. Пасля 10-гадовага перапынку Лідскі гістарычна-мастацкі музей пачаў паўнамаштабнае выкарыстанне беларускай мовы.

На працягу апошняга дзесяцігоддзя толькі ўлік фондаў, за які адказвала Ганна Драб, вёўся на беларускай мове. Зрэдку па-беларуску афармляліся экспазіцыі і выставы.

А вось сёлета па-беларуску ўжо ствараецца план работы музея на 2006 год, па-беларуску будзе пісацца і справаздача за 2005 год. Што далей? Пабачым, але такі падыход лідзян можна толькі вітаць. Спадзяёмся, што Лідскі музей стане яшчэ адным асяродкам беларушчыны ў горадзе.

***Яраслаў Грынкевіч.***

## "Белпошта": у ногу з гісторыяй




*Напрыканцы 2005 года УП "Белпошта" выпусціла цэлы шэраг канвертаў да "круглых" датаў беларускіх гарадоў: "Чачэрску - 845 гадоў", "Століну - 450 гадоў", "Ваўкавыску - 1000 гадоў".*

*Людміла Дзіцэвіч*

# Беларуска-ірландскі дзённік

## *(Працяг "Ірландскага дзённіка")*

### *Біл Кліры і яго сям'я*

Біл і яго жонка жывуць у Мулінгары. У іх пяцёра дзяцей: двое сыноў; трое дачок. Дзве з іх ужо выраслі і аддзяліліся.

9 гадоў назад Біл упершыню пачуў ад стрыечнай сястры Бэрні пра дапамогу беларускім дзецям. Яны з жонкай вырашылі дапамагаць. На маё пытанне, чаму яны так вырашылі; Біл адказаў абсалютна тыпова. Яны помняць той гаразоў Беларусь, таму што знайшоў тут многа сяброў. Ён ездзіў на рыбалку на бераг Прыпяці, еў юшку і нават помніць гэтую назву на нашай мове. Пабываў у Ірынінай бабулі ў вёсцы, і яму там вельмі спадабалася. Біл любіць беларускія стравы: боршч, пельмені, галубцы. Ён у захапленні ад беларускіх песняў, танцаў. Ірландзец пабываў у 39 краінах, але лічыць, што найпрыгажэйшыя жанчыны ў свеце на Беларусі і на арганізоўваць у Менску ў парку М. Горкага 8 гадоў назад. Таксама мы сустракаліся ў доме Дружбы, дзе арганізоўвалі шматлікія сустрэчы з нашымі ірландскімі гасцямі. Біл паведаміў мне пра гібель Брайдэна ў Беларусі. Ірландцы ехалі на рафіку і каля Калінкавіч на іх сустрэчную паласу выехаў самагубца, які пасварыўся з жонкай і паехаў на трасу здымаць стрэс. Вось такі лёс ірландца Брайдэна, які прыехаў у Бела-



*Джым О'Кіф, дырэктар Юры Ўладзіміравіч, Дорык Дэві, Джэймс Фарэл у Багушэўску Віцебскай вобласці (Багушэўская санаторная школа), лета 2005 г.*



*Біл Кліры (у сярэдзіне) у гасцях у Тома Кёрнана*

лодны час у Ірландыі, яны гэта перажылі і могуць дапамагчы нам, хто нічога не мае. Для іх гэта задавальненне – дапамагаць.

Сям'я ўзяла на канікулы 15-гадовую Ірыну з Мазыра. Цяпер Ірыне 24 гады, яна закончыла Мазырскі педагагічны універсітэт, першы год працуе настаўніцай англійскай і нямецкай мовы ў вясковай школе. Гэтым летам прыехала сюды ў 8-ы раз. Цяпер яна ўжо перакладчыца ў групе беларускіх дзяцей. Пабачыўшы яе галівудскую ўсмешку, я зразумела, што яна вывучала яе ў Ірландыі. Ірына любіць танцаваць беларускія танцы, мае нацыянальны касцюм. Калі мы сустрэліся з ёй у Томавай хаце, дзе я жыла, мы праспявалі для ўсіх "Цячэ вада ў ярок". Ірына малайчынка, як толькі пачула маю беларускую мову, адразу пачала на ёй гаварыць , хоць гэта было ёй цяжка і нязвычна. Яна ўспамінала, дзе мяне бачыла, і потым сказала, што любіць глядзець канал "Лад", дзе мы з дачкой паказваем беларускія традыцыі.

Біл з'яўляецца сябрам мулінгарскага камітэта дабрачыннай арганізацыі. Ён быў у Беларусі чатыры разы: у Мазыры, Калінкавічах, Гомелі, Менску, розных вёсках. Наведвае шмат Кубе. Ён любіць гісторыю, добра ведае гісторыю Ірландыі, вывучае гісторыю Беларусі.

Біл пабываў у нашых школах, выступаў перад студэнтамі Мазырскага універсітэта. Калі адзін са студэнтаў спытаў, якую краіну ён найбольш любіць, Біл адказаў, што Беларусь, але, вядома, пасля Ірландыі.

Падчас размовы Біл успомніў, што мы сустракаліся ў Беларусі. Я вяла некалькі канцэртаў падчас фестываляў, прысвечаных святому Патрыку, якія дзіцячы фонд "Сакавік" пачаў русь з надзеяй змяніць жыццё беларускіх людзей да лепшага.

Біл таксама хоча дапамагчы зменам у жыцці беларусаў і лічыць, што беларусы павінны гэтага хацець так, як глыбока марылі пра гэта ірландцы. І не апошнюю ролю ў гэтым іграе незалежнасць краіны і людзей. Зараз мы маем незалежную краіну, але людзі ў большай частцы любяць падпарадкоўвацца, не браць на сябе вялікую адказнасць. Такімі былі ірландцы ў мінулым.



*Людміла Дзіцэвіч з настаўнікамі Кілбэгенскай школы*

### *Школа ў Кілбэгене*

Наведала Кілбэгенскую школу. Сустрэлася спачатку з вучнямі, якія закончаць школу праз 2 гады. Сярод адзінаццаці дзяўчатак адзін хлопец. Дзеці вельмі цікаўныя, але пра Беларусь ведаюць мала. Хлопец казаў, што гэта маленькая краіна, меншая за Ірландыю, а ў іх насельніцтва 4 млн. Не вельмі добра ведаюць і сваю гісторыю, доўга ўгадвалі, калі адчыніўся бровар Локаў у Кілбэгене. Падаравала ім каляндарыкі і значкі. Як і нашыя, вучні пытанняў не задавалі.

Потым сустрэлася з настаўнікамі. Усіх іх было каля 30. Яны вельмі жыва адрэагавалі на маю інфармацыю пра "Ірландскі дзённік", слухалі вельмі ўважліва, задавалі пытанні. Іх цікавіла, на якой мове надрукаваная газета, які тыраж, чаму розная колькасць старонак.

І вучням, і настаўнікам я задавала пытанне, што рамантаваць спачатку – дах для храма ці дах для дзіцячага прытулка, успамінаючы колішнюю спрэчку ірландцаў з дацэнтам Трусавым. Тады, у жніўні, я нават не ведала, чый бок узяць. І найбольш схілялася да меркавання Трусава. Але ўжо тады закралася супярэчлівая думка, якая тут, у Ірландыі, умацавалася, калі я пачула адказ настаўнікаў і вучняў. Усе як адзін, не разважаючы, лічаць, што дах для дзяцей – найперш.

Пагаварыла з дырэктарам – наймілейшай Катарынай. Я ўпачатку сустрэла яе на калідоры. Яна несла вялізарнае люстра, і я запытала, дзе я магу бачыць дырэктара. Калі я даведалася, што яна – дырэктар, то была ўсцешана – вельмі люблю працавітых дырэктараў.

Спадарыня Катарына расказала пра школу, пра бацькоў і дзяцей, паказала сваю гаспадарку. Было бачна, што яна любіць сваю работу, як і нашы школьныя дырэктары, знаходзіцца на працы ад раніцы да цямна.

### *Ірландскі валанцёр Дорык Дэві*

Дорыку 26 гадоў. Жыве ён у Кілбэгене, а працуе ў Мулінгары ў спецшколе. Зімой 2003 года ён пачуў ад Шэмеса Грэхама, што ёсць такая арганізацыя – Кілбэгенскія сябры Беларусі, якая дапамагае беларускім дзецям. Дорык вырашыў дапамагаць таксама. Маці, бацька і сястра не супраць, каб ён працаваў у дабрачыннай арганізацыі. Хлопец лічыць, што ірландцы маюць усё, што трэба для жыцця: грошы, рэчы, адзенне, дамы, харчаванне. Але моладзь ведае пра бедную Ірландыю ў мінулым ад сваіх бацькоў. Бацька Дорыка расказаў, што меў адны чаравікі, адны штаны і адну кашулю.

Дорык вучыўся жыць і ад бацькоў і ад жыцця. Аднойчы хлопец вырашыў павандраваць па свеце без грошай і без харчу, каб зразумець, што такое жыццё. Калі ён вярнуўся і адчыніў халадзільнік, бітком набіты прадуктамі, ён усвядоміў, як мала трэба для адчування шчасця і як людзі гэтае пачуццё пастаянна губляюць.

Калі Дорык першы раз паехаў у Беларусь, пабачыў Менск, то думаў, што Беларусь багатая, прыгожая і шчаслівая краіна. Але калі прыехаў у Станькава, то зразумеў, што ў нас шмат праблем. Ён быў у шоку – настолькі розняцца горад і вёска ў Беларусі.

Дорыку падабаюцца беларускія людзі, беларускія дзеці. Ён увогуле любіць дзяцей, працуе з імі. Лічыць, што дзеці – шчырыя, наіўныя, што думаюць, тое і гавораць. Яны ўсюды аднолькавыя – і ў Ірландыі, і ў Беларусі. Ён лічыць, што Беларусь адкрыла яго свядомасць, змяніла яго светапогляд у лепшы бок. Ён стаў яшчэ лепш разумець жыццё.

Калі Дорык пабываў у Віцебскім доме малюткі, пабачыў немаўлятак, ад якіх пасля нараджэння адмовіліся бацькі, то загарэўся ідэяй прыехаць сюды працаваць выхавальнікам у свой адпачынак. Мы дамовіліся з загадчыкам Дома, што гэта будзе магчыма.

Мяне зноў і зноў здзіўляе дабрачынная актыўнасць ірландцаў, іх жаданне дапамагчы, калі яны бачаць, што некаму гэта патрэбна. І вырашаюць яны гэта лёгка і нязмушана, як дыхаюць. А нам гэта цяжка нават зразумець.

С. Квіцень

# ШЛЯХ: ТВАРЫ, ДУМКІ, ГАЛАСЫ

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

### 116. РАТАЎНІК
**/А.Тызенгауз/**

Лічыў – не для транжыры-жабрака
Адпушчана жыццё ўсё прасторнае.
Было яму за пана-земляка
Балюча і непераносна сорамна.

Нядобра станавілася ў Літве,
Ды кум не дазваляў сабе нішчымніцы.
Адно скраблося толькі ў галаве –
Гуляў, раскашаваў да немагчымасці.



Пра гэта не хапала горкіх слоў –
Як бавіліся людзі бесклапотныя.
Блакітная гніла па жылах кроў,
Марнелі ручаі высакародныя.

Не бачылі дзіравую страху
Над паспалітай спадчынай міражнаю.
Айчынушку зацягвалі ў дрыгву
Вялікаю пятлёй сваёй бадзяжнаю.

О, марна жа гульцоў таміла масць –
Каталікі вакол ці праваслаўныя.
Адно магло б краіну ўратаваць
Ад ямы – грамадзяне яе спраўныя.

Кудысьці зніклі – так! – гаспадары,
І прайдзісветы грамаду разбавілі.
Здавён жа адмысловыя майстры
Працяг радзімы ўрадлівы праславілі.

Бо валадарыў кроўю іх статут
З задумаю і літарай імкліваю.
Не тое што шукаў такі ён люд –
Ствараў, як чараўнік, рукой руплівую.

Скрозь явы звышмаруднае быццё
Глядзеў далёка і без кніжак памятных,
Ды сапраўды пятроўскае чуццё
Было ў адкрывальніка на таленты.

На пестуноў ахвяраваў усім,
Ён іх ледзь не прываблівал ласункамі.
Нарэшце, у Прынёманні сваім
Набудаваў вучэльняў для разумнікаў.

Свярбелі ж у суседзяў кулакі –
Дурныя ад віна паны спрачаліся.
А з клопатаў яго і мастакі,
І лекары ў Гародні пачыналіся.

Супернікаў не ведалі нідзе.
Пакуль драбнелі земякі з уцехамі.
І, поўныя адвагі і надзей,
На захад выхаванцы яго ехалі.

Праводзіў апякун іх нескупы.
Хаця і справа можа, натуральная –
Кідалі вось такія са скалы
Айчыне ў вір кругі выратавальныя.

Не абяднела грэшная зямля –
Яшчэ бузілі навакол нястомныя,
А іншым гонар зноў не дазваляў
Забрудзіць іх традыцыі патомныя.

Ці з чыстымі вадзіліся паны,
Ці густы ж у народа сталі дрэнныя –
Яго самаахвярныя сыны
Былі дзяржаве, пэўна, непатрэбныя.

### 117. МОДНІК
**/Віленскае барока/**

Не ведаў прыстойнасцяў модны буян.
Аблічам гарэзлівым неспадзяваны,
Капрызна крывіўся нявеглівы храм,
Як княжыч, да дзіўнага невыхаваны.

На свет узнімаў ганарыста брыво –
Ці, можа, яшчэ хто яго не прыкмеціў:
Бо мала яму, ганарліўцу, было
Трывалай пашаны зялёных суседзяў.

Акенцы і брамы ў мудрых званоў
Прасілі шматлікія дабраславенні.
А ён да бывалых паблізу муроў
Саваўся раскошным малюнкам адзення.

Усходзіла зграбная стромкая бель
З вясёлай гурмою ажурных праёмаў.
Рухавая кожная цела ступень
Уносіла дух ад зямнога прыгону.

Як птушкі, ўзляталі вакон галасы,
Імкнуўся надзеямі храм да нябёсаў.
І гойдалі хвалі яго – паясы,
Па нораву-звычцы сваёй нецвярозай.

Круціла галовы ад гэтай гульні.
Ў малітвы прыходзілі песні і вершы.
Як мачты сасновыя ў вышыні,
Блакіт абнадзейваў шыкоўныя вежы.

З пашанай яго аблягалі арлы.
Крутым не баяўся дастацца маланка.
Разбэсціўся сціплы падлетак былы
Падміргваў прыгожым
замужнім шляхцянка.

### 118. БУНТАЎШЧЫК
**/Л. Яленскі/**

Паблажлівай думцы
ніхто б з ім іспыт не параіў –
Глядзеў бы ў твар ён сумлення,
як бы жаралом.
У вольным сумбуры
бязладнага ляшскага краю
Удосталь такіх
абадранцаў шляхетных было.

Псавалі іх хутка жанчыны
і хмелю кадушка,
Бліскучыя рэчы прасіліся ў даланю.
Хто жыў у вялікіх паноў
проста на пабягушках,
А хто гаспадарку лядачую неяк цягнуў.

А то і ў галовах усякіх там лётала думак.
Штурхалі іх звонку
грамадства ўсе скразнякі.
Разумнікаў розных
жаданы маніў паратунак –
Вучоная доля, таксама не цукар які.

А што ж – і яна
не без тайнай прынадлівай мроі –
Было б дзе мазгоў паспытаць
гутаперчавы спрыт.
Такім жа, як ён,
замінала шляхецтва другое –
Сапраўднага высакародства тугі маналіт.

Якая крамола! У чыстай душы нескаронай
Пыталі адказу свабода, Радзіма – Літва.
Не мог абыякава бачыць
свавольства прыгону,
Па долі свайго суайчынніка ён гараваў.

Змяталі, здаецца, з душы
храмы брыдкае смецце.
Адкуль жа, пытаўся,
у Бога кругом нелады?
Бясконцы юнак непрытульны,
ён марыў аб свеце,
Дзе б роўнымі побач жылі
хрысціяне-браты.

Дзяржаве крамольнікі
ды пасмалілі аблічча.
І нават бузілі паспольства амаль дзікуны.
Ў сярмяжных ліцвінаў з'явіўся
ўласны Радзішчаў,
Запал абмінуўшы
мяцежнай сармацкай гурмы.

Было вестуноў незлічона ў чорнага часу.
Прыйшлі супакойваць
бунтаўшчыкоў чужакі.
Ці мала вакол мільгацела
французскай заразы?
Забралі расейцы хутчэй крыкуна
ў Салаўкі.

Жахліва тады
сутарэнняў хрыпелі цямніцы,
Гнялі камяні шыю
ў горкім тужлівым жыцці.
А ён і адтуль дабравесціў
уголас царыцы –
Ў пасланні па-добраму
раіў з прыстола сысці.

Яму б аб апошнім падумаць
сваім багамоллі,
Ды, як апантаны, грымеў
па сцяне кулаком.
Надзей аніякіх жа не заставалася болей
І не ўсміхалася гніць змагару чарвяком.

Ды смерць не прыходзіла тут жа
дастойна і горда.
Балела яму за Айчыны душу галава.
Хаця і не кожная багна
зацятым пляскалася чортам,
Не ўся безуважна балотам маўчала Літва.

### 119. ВЭРХАЛ

Кідалася між сцен дурное рэха,
Сварыліся зацятыя гурмы.
І не пераставаў гарачы вэрхал,
Не сцішваўся кірмаш сярод чумы.

Блудзіла шчодра слованестрыманне,
Круціла вірам нейкую гульню.
Высокія ступалі грамадзяне
Лунацікамі ў блакіце сну.

І многіх асудзіўшы на блазноту,
Не грымнула няшчасце неспадзеў.
Ужо даўно бязмежна на свабоду
Сусед, як бы сурочаны, хварэў.

Але ж яму так ладна пелі ў дудку,
Наогул развітаўшыся з мяжой,
Што пераапрануліся мы хутка
За ім услед і целам, і душой.

У збройным паўставалі урапенні –
Дык ззяла бы абранасцю на лбе.
О, сапраўды – ці не да ачмурэння,
Як пеўні, спадабаліся бабе!

Зыходзіліся тварамі імпэтна,
Высакародны песцячы рэзон.
А з розумаў выкідвалі ў паветра
Прыродны лад, вялікі наш закон.

Зубрылі ганарлівыя скрыжалі
Над тленам азіяцкае гразі.
Прыгожа вельмі разам балявалі
І распірала годнасцю усіх.

### 120. ПЕВЕНЬ.

Як бы ззяла чало
перад публікай.
толькі што не ў вяночку.
Ох, і пыхі было
ў худога,
як лапаць дзіравы, паночка!

Харч меў – хлеб аржаны,
ды затое
занадта цягнула да высі.
Быццам пеўні адны
ў курынай сям'і
толькі і засталіся.

Узыходзіла стромка насенне.
Траплялася гэткія чаплі!
І не выпалі
ў зеўры кішэняў
славутыя дзедавы шаблі.

Дражняць цені зямлі
радавітыя зоркі,
што на небасхіле.
Продкі час пачалі –
з Гедзімінам калісь
на татараў хадзілі.

Што ж пасля –
не на ўсіх жа цяпер
славы іх неўміручай.
Так, але ж караля
не бывае ніколі
без світы бліскучай.

Хоць скрыпела Айчына
і стратнела высакародства
прыкметна,
ды было без яго немагчыма-
вось як без паветра.

А не шэнціла росту,
драбнелі ўчынкі ў сумбуры.
І глядзела кароста
з пародных груддзей,
як падраная скура.

Ды круціліся дзесь
прусакамі ў Бога
і блазнамі ў замкаў.
Ледзь жывых ад віна дармавога
выкідвалі з ганкаў.

### 121. ГОНАР

Дарма ксяндзы лячылі і папы.
Не ведала нахабства слоў вуалі.
Зямлі высакародныя пупы
Ўвогуле краіну насялялі.

Спрачаліся туманныя вякі
Аб гэтым неакрасленым прадмеце,
Ды ведалі няслабыя панкі –
Апроч іх не было на цэлым свеце.

У кожнага быў свой у іх мазоль.
Але агульнай помнілася байка –
Як статак зубраў суцішаў кароль,
На нітачках збянтэжаная лялька.

Якія там законы? Сапраўды
Салодкія, у буйнай волі, хвалі.
Не зналі папярэднікі Арды,
Апрычнінаю дол не карчавалі.

Не прыняло б убачыцца з бядой.
На пэўны густ жыцця крутая страва.
Але ў свабоды, чалавек, тваёй
Ні Вітаўта няма, ні Усяслава.

Не годнасці прасіць дзяржаўных пут,
Няхай жыве адно запалу пара!
Пакіньце вы ўспаміны пра Статут.
Літоўскіх толькі звычак не хапала!

Нашто так злосна ганіць – лад крывы?
Знай – без цябе не будзе і Радзімы,
Дык толькі ён і варты шчэ крыві
Ў гэтай долі – гонар наш адзіны.

*(Працяг у наступным нумары.)*

# Міхась Васілёк застаецца з намі

**У Гародні на вечарыне, прысвечанай 100-годдзю з дня нараджэння Міхася Васілька прысутнічала моладзь. Іншыя ўпершыню чулі імя паэта-змагара. Як адзначыў пісьменнік і старшыня Гарадзенскай гарадской арганізацыі ТБМ імя Ф. Скарыны Аляксей Пяткевіч, галоўнае, што юнакі і дзяўчаты атрымалі звесткі пра літаратара, які пражыў 55 гадоў (1905-1960), апублікаваў некалькі зборнікаў, пахаваны ў Гародні. Гэтая асоба заслужыла права на ўдзячную памяць.**

Журналіст **Валеры Задаля** адзначыў, што інфармацыю пра паэта ўтрымліваюць беларускія выданні энцыклапедычнага характару. Да яго творчасці звярталіся многія айчынныя літаратуразнаўцы. Пра яго ў розныя часы змяшчалі матэрыялы рэспубліканскія газеты і часопісы, раённыя газеты вобласці, абласная "Гродзенская праўда". Успаміны пра паэта пакінулі Васіль Быкаў, Аляксей Карпюк, Данута Бічэль, Апанас Цыхун, Мікалай Дзелянкоўскі, Алесь Дземідовіч...

У далёкія 30-я гады мінулага стагоддзя Міхась Васілёк быў адным з самых актыўных дзеячаў Таварыства Беларускай Школы на Гарадзеншчыне, сакратаром гуртка ТБШ у вёсцы Шкленск Берштаўскай гміны. Гісторык, кандыдат гістарычных навук Сяргей Токць у артыкуле "Культурнае жыццё беларускай вёскі ў міжваеннай Польшчы (па матэрыялах Гарадзеншчыны)" узгадвае, што 27 лістапада 1927 года шкленскі гурток наладзіў у сваёй вёсцы вечарыну-спектакль. Пра тое, як адбываўся гэты вечар, М.Касцевіч (Васілёк) напісаў у газету "Права працы": "Былі згуляны дзве п'есы: "Міхалка" і "Суд", пасля чаго пяяліся беларускія песні, дэкламаваліся вершы беларускіх паэтаў. Вечар быў закончаны выкананнем "Лявоніхі". Увесь прыбытак пайшоў на бібліятэку-чытальню, якая існавала пры гуртку".

Арганізацыя такіх вечарын патрабавала велізарных высілкаў, страты працоўнага часу, пераадолення супраціву мясцовых уладаў. Так, 7 студзеня 1928 года сябры шкленскага гуртка наладзілі ў вёсцы Навасёлкі беларускую вечарыну, якая праходзіла ў звычайнай хаце. Паводле паліцэйскай справаздачы, прысутнічалі каля 80 асобаў. Імпрэза пачалася а 19 гадзіне, а завяршылася а 3 гадзіне ночы. Паліцэйскі камендант так апісаў яе ходу: "Была згуляна камедыя "Паўлінка", затым дэкламацыі "да працы - родныя вобразы - пакліч мая песня", пасля чаго пачаўся спеў "ці не быстрая рэчка". Прысутная люднасць (старыя і маладыя) усе без выключэння паставіліся да п'есы прыхільна і выказалі задавальненне".

Але калі гурток падрыхтаваў правядзенне такой вечарыны ў Шкленску, запланаванай на 14 студзеня, то дазволу ўладаў ужо не атрымаў.

Прафесар Гарадзенскага ўніверсітэта імя Я. Купалы, сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў **Аляксей Пяткевіч** у канцы 50-х гадоў некалькі разоў сустракаўся з паэтам, быў на яго кватэры, запрашаючы творцу завітаць на сустрэчу са студэнтамі. Васілёк меў хваравіты выгляд, здаваўся старэйшым за свае пражытыя гады. Але выступленні ў студэнцкім асяродку праходзілі надзвычай паспяхова. Чытаць свае творы спадар Міхась умеў.

Васілёк быў дбалым літаратурным кансультантам абласной газеты. Ён першы, хто даваў парады маладому тады Васілю Быкаву, старанна працаваў з рукапісамі, змяшчаў яго апавяданні. Нездарма Васіль Уладзіміравіч, пішучы твор "Незагойная рана" (1957 г.) узяў эпіграфам наступныя радкі з верша Міхася Васілька:

***Мінаюць часіны —***
***знікаюць руіны,***
***Злятаюць з палёў груганы.***
***І толькі ў сэрцах баляць,***
***не сціхаюць***
***Незагойныя раны вайны.***

У 1953 годзе адбыўся шматлюдны мітынг у вёсцы Стары Двор, дзе ля гасцінца пахавана Цётка (Алаіза Пашкевіч). Міхась Васілёк часта прыязджаў на месца будучай падзеі, унікаючы ў дэталі падрыхтоўчай работы. У 1963 годзе быў адкрыты музей Я. Карскага ў вёсцы Лаша. Краязнаўцу, ініцыятару стварэння музея Апанасу Цыхуну дапамагаў сярод іншых і Міхась Васілёк.

Актывіст Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны **Іван Буднік** — аўтар даведкі пра Міхася Васілька, змешчанай у кнізе "Памяць. Гродзенскі раён" (1993). Іван Фёдаравіч паведаміў пра свае сустрэчы з сёстрамі паэта, яго аднавяскоўцамі падчас збору матэрыялаў пра літаратара. Многія цікавыя звесткі ўпершыню прагучалі на вечарыне.

Ведалі Міхася Васілька асабіста таксама ветэраны педагагічнай працы **Анатоль Будзько і Іван Сухоцкі**. Анатоль Іванавіч паведаміў, што на святкаванні 50-годдзя Васілька прысутнічала жонка Янкі Купалы – Уладзіслава Францаўна Луцэвіч.

Іх успаміны дазволілі даведацца пра невядомыя бакі жыцця паэта.

Аб ролі Міхася Васілька ў сучасным грамадскім жыцці выказалі свае думкі гісторык **Уладзімір Хільмановіч**, актывіст грамадскага жыцця **Валеры Кісель**.

А яшчэ ў гэты вечар гучалі вершы Міхася Васілька.

Застаецца дадаць, што вечарыну ладзілі Гарадзенскае гарадское аддзяленне ТБШ і гарадская арганізацыя грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай школы імя Ф. Скарыны".

*Антон Лабовіч,*
*Гародня.*



*Верш прысвечаны М.Васільку чытае актывіст ТБМ, паэт Іван Буднік*



*Вершы М.Васілька чытае настаўніца Ірына Данілоўская.*

*Іван Буднік*

## *Міхасёвы песні*

*Міхась бацькоўскую палоску*
*Араў і потам палівў*
*Яе, як сейбіт, з іскрай Боскай*
*Не зернем – думкай засяваў.*

*Рунь на пясчанай чэзлай ніве*
*Нядружнай, кволаю расла.*
*Не абяцала лёс шчаслівы:*
*Сама бяздольнаю была.*

*Міхась панёс з няшчодрай нівы,*
*Што волі, шчасця не дае,*
*У свет трывожны і вірлівы*
*Свой боль і песні пра яе.*

*Прайшлі гады, і ў нашым краі*
*Жывыя песні Васілька*
*Звіняць вясной, зялёным маем,*
*Шырока льюцца, як рака.*

*След песняра ў лясной Баброўні*
*Парос нятоптанай травой...*
*Мы ж суцяшаемся, што помнім*
*Яго, як скарб і гонар свой.*

*Дзе трэба бываць*

## "Беларуская песьня"

75-гадовы юбілей выдатнага беларускага пісьменніка Уладзіміра Караткевіча падштурхнуў многія творчыя сілы Беларусі да творчай працы, прысвечанай вялікаму пісьменніку. Адбыліся вельмі маштабныя святкаванні ў Воршы – на радзіме У. Караткевіча: адкрыццё новай залы ў музеі У. Караткевіча, Міжнародная навуковая канферэнцыя і ажно тры мастацкія выставы. Выстава ў Дзяржаўным музеі беларускай літаратуры, вечарына ў сталічным Доме літаратара і выстава ў першай гарадской Менскай бібліятэцы. У шэрагу гэтых юбілейных святкаванняў не павінна згубіцца выстава дзіцячай і маладзёвай творчасці "Беларуская песьня", арганізаваная Міколам Купавай ў сядзібе Таварыства беларускай мовы. На выставе прадстаўлены творы ў дзвюх намінацыях: зусім малых дзяцей ад 6 да 12 год (у гэтай калекцыі значную колькасць складаюць малюнкі выхаванцаў Аршанскай школы мастацтваў). Другую намінацыю прадстаўляюць творы моладзі: навучэнцаў Менскай мастацкай вучэльні імя А. Глебава, Рэспубліканскага каледжу мастацтваў, Менскага дзяржаўнага каледжа мастацтваў і студыі М. Купавы.

Тэмы твораў прысвечаны творчасці У. Караткевіча: "Дзікае паляванне караля Стаха" Кастуся Пахомчыка з Воршы, "Фантан слёз" з цыклу "Таўрыда" Паўліны Кароткай, "Кароль Стах" Сяргея Касцюка. Уражвае жывапіснае палатно Святланы Халецкай "Зубр" (Падарунак Маіцы) паводле "Каласоў пад сярпом тваім", а таксама партрэт У. Караткевіча на Дняпры Паўліны Кароткай. Вітаўт Купава пабачыў і намаляваў з натуры Гальшанскі замак – праваобраз месца дзеяння ў рамане "Чорны замак Альшанскі". На выставе шмат твораў цікавых і прыніклівых. Яе трэба глядзець як дзецям, маладым, так і дарослым гледачам. Радасць ад далучэння да мастацтва маладых і юных мастакоў прадаўжае сьвята У. Караткевіча.

У назву выставы вынесена назва найвыдатнейшага паэта "Беларуская песьня". Няхай даўжэй гучыць наша песьня.

*Наталля Мацюкоўская.*

Рэдактар Станіслаў Суднік

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220034, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* naszaslowa@tut.by
http://tbm.org.by/ns/

*Рэдакцыйная калегія:*
Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Валер Задаля, Вольга Іпатава, Васіль Ліцьвінка, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Аляксей Пяткевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 19. 12. 2005 г. у 11.30. Замова № 2137.
Аб'ём 3 друкаваныя аркушы. Наклад 2000 асобнікаў.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 1270 руб., 3 мес.- 3810 руб.
*Кошт у розніцу:* па дамоўленасці.